На старонцы 6: НКВД і пэдэрастыя.

# НАВІНКІ

18 - 26 сьнежня 2000 №16(38) Кошт свабодны

OPEN YOUR MIND!

## Новыя Рурыкавічы

Стар.2

## СЬПІЦА БОЙКА

Спозьнены рэпартаж са Сьветлагорску

на стар.7

## ЛІКВІДАТАР-2



РАДЫЯАКТЫЎНАЯ ГУЛЬНЯ

НА СТАР. 4-5

## ТАЙНЫЯ СПРУЖЫНЫ ПАЛІТЫКІ

Комікс на стар.8

# УСПОМНІЦЬ... УСЁ

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ СТАНЦЫЯ нарэшце зачыненая, а яе дзьверы й форткі забітыя цьвікамі. Забыцца й напіцца, скажаце вы? Мы ж прапануем вам успомніць усё!

Успомнім, як бясконцыя кансыліюмы наконт значэньня Чарнобылю сталі нормай для будуараў беларускіх інтэлектуалаў. У ход ішло ўсё: цытаты з Апакаліпсысу, пост-мадэрнісцкія сымулякры Алексіевіч, архівы РСДРП(б), мапы грунтовых водаў і Тайная Дактрына Блавацкай. Але ў эру Інтэрнэту і клонаў адзінай дастойнай нашай эпохі гіпотэзай зьявілася кніга Янкі Крука *Сымболіка беларускай народнай культуры* (Менск, «Ураджай», 2000), дзе арыгінальна трактуецца эзатэрыка красавіцкай катастрофы. ЗА ВЫБУХАМ 26 КРАСАВІКА СТАЯЛІ ГУМАНОІДЫ!

**«Чаму сталася так, што аварыя на Чарнобыльскай АЭС больш за ўсё прынесла пакутаў беларускаму народу»**, – задаецца пакутлівым пытаньнем Янка Крук і адказвае сам сабе: **«Адказам можа быць тое, што нам наканаваная незвычайная гістарычная пэрспэктыва, гарызонты якой адкрыюцца пасьля шэрагу касьмічных выпрабаваньняў, скіраваных на катарсычныя іспыты нашай душы і сьвядомасьці»**.

Відавочна, што мы з вамі ўсе – касьмічныя рыцары-джыдаі, якія праходзяць чарговае астранамічнае выпрабаваньне. Нам супрацьстаяць ЧУЖЫЯ –прышэльцы з космасу. Яны ўпырскваюць сваю спэрму пад эпідэрму грамадзянаў РБ. Для здаровага плоду ВОРАГАМ патрэбныя адпаведныя прыродныя ўмовы – радыяцыйны фон. А ён, як вядома, на плянэце акупантаў значна вышэйшы за зямны. Выйсьце – невялікая аварыя на электрастанцыі. Але чаму беларусы?

**«Таму»**, – піша Я.Крук, – **«што беларусы сваімі паводзінамі ў другой палове XX ст. парушылі адвечныя законы прыродна-касьмічнага суладзьдзя, выпрацаваныя напрацягу стагодзьдзяў»**.

Выратаваньне касмоляг бачыць у вяртаньні да мэтатэксту тысячагадовай духоўнай спадчыны беларусаў. Успомнім усё! Каб ачысьціцца ад іншаплянэтнага семя, прыгадайма падзабыты традыцыйны этыкетна-нарматыўны кодэкс, інакш кажучы, увесь комплекс абрадаў, з дапамогай якіх нашыя продкі знаходзілі касьмічную «крышу» ад інтэрвэнцыяў з-за межаў галяктыкі.

Касьмічны рэйнджэр! Калі ня хочаш гадаваць радыяцыйнага падкідыша з Сырыюсу, занатуй хутчэй супрацьзачатковую замову Янкі Крука – і сьмела да каханай:

**«Рагуля-баравуля, так стаяла твая бабуля, так стаяла твая матуля і табе так стаць наказвала. Як гэты кол стаіць, так і ты стой!»** (стар. 321).

## ВялікіяГрошы

Да ўвядзеньня 100-даляравага сярэдняга заробку застаўся 201 дзень!

**Як зьбіраюцца грамадзяне РБ патраціць такую велізарную колькасьць грошай?**

**Арсень Скаруліс**, *юрысконсульт рэдакцыі газэты* Навінкі.



«Мой сёньняшні заробак складае 12 мільёнаў рублёў, зь якіх палова сыходзіць на алімэнты, яшчэ палова – на адміністратыўныя штрафы. Зразумела, я чакаю 1 жніўня, як сьвята! Як толькі я атрымаю новы аклад, я аддам усе даўгі, а астатніе прагі'ю і праматаю ў казыно. Перадайце Аляксандру Рыгоравічу маё шчырае дзякуй!»

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 18.12.2000г., а 01.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №970

 



## Вяртаньне да каранёў

Нават сьляпыя і глухія ведаюць, што калі размова тычыцца выхаду з крызысу, правільная нацыянальная сымболіка – палова справы. Ня дзіва, што Расея з такім імпэтам вырашае пытаньне, пад якую мэлёдыю ўставаць з будуна а 6 гадзіне раніцы. Кропку ў бесканцовых спрэчках мэляманаў паставіў асабіста Пуцін: «Калі мы ня выразім у нацсымбалях усю сваю гісторыю, то мы дэ-факта прызнаем, што нашыя бацькі жылі дарма». Залатую цытату расейскага гаранта павінны зарубіць сабе на сваім падазроным шнобэле і нашыя херавы геральдысты. Згодна Пуціну, дастаткова аддаць на харугвах даніну памяці папярэднім генэрацыям, як гістарычны кантынуітэт і нацыянальны кансэнсус будуць гарантаваны. Пачаць вяртаньне да гістарычна-нацыянальнай гармоніі немагчыма без рэабілітацыі памяці пра суайчыньнікаў даледавіковага пэрыяду. А можа ў кагосьці павернецца язык сказаць, што нашыя прапрапрабабкі і прапрапрадзяды жылі дарма? Пакуль мы не аддамо павагу квартэрантам пячораў, беларускае грамадзтва будзе хворым. Дык давайце ж дапетрым, што першы крок па гасьцінцы да Нацыянальнага рэнэсансу – упрыгожыць наш чырвона-зялёны вымпел каменным малатком або мамантам.

# Новыя Рурыкавічы

### Большасьць высокіх дзяржаўных пасадаў у Рэспубліцы Беларусь займаюць расейскія грамадзяне



*«Хто з Прэзыдэнтам да нас прыедзе, ад Прэзыдэнта й загіне!» – вучыць старажытная славянская прымаўка.*

Тое, што наш Прэзыдэнт мае пэўныя сэнтымэнты да славянафільства, ня ведае толькі двоечнік. Аднак гульня ў русічаў на фоне нядаўніх адставак набыла даволі канкрэтны характар. Інакш як патлумачыць, што адным з галоўных імпартных тавараў з Расеі (акрамя нафты й газу) займае ўвоз у нашую краіну расейскіх чыноўнікаў? Апазыцыйныя шаўкапёры пасьпяшаліся ляпнуць, што нібыта Лукашэнка выдаляе ад сябе ўсіх магчымых мясцовых прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую табурэтку.

Аднак сярод гэтага тлуму пачуўся голас розуму. Зянон Пазьняк ясна ўгледзеў тут руку Масквы, бачачы ў гэтым непасрэдную пагрозу асабіста Прэзыдэнту. «Апошнім, – мяркуе Пазьняк на старонках *Нашай Нівы*, – Масква ліквідуе Лукашэнку. Дзеля гэтага сярод выдаленых будуць рыхтаваць свайго Каштуніцу».

Такую кадравую палітыку Прэзыдэнта трэба разглядаць у кантэксьце нашай агульнаславянскай гісторыі. Працэс запрашэньня чыноўнікаў-расейцаў больш нагадвае клíканьне варагаў на Русь. Як памятаем, наўгародзкія баяры, давёўшы сваёй бяздарнай палітыкай княства да глыбокага крызысу, прапанавалі рагатаму скандынаву Рурыку і ягонай братве (якія таксама й блізка не былі грамадзянамі Наўгародчыны) правесьці ў Ноўгарадзе фэадальныя эканамічныя рэформы дый гасіць бунты незадаволенага апазыцыйнага сьмерду.

Аднак Лукашэнка сапраўды можа наступіць на тыя ж граблі, лічыць гісторык З.Пазьняк, бо гісторыя вучыць: вікінг ня можа быць гарантам звычаёвага права ільменскіх славянаў. Прышлы Рурык проста паслаў наўгародзкіх баяраў славянскай нацыянальнасьці і ўкняжыўся на Русі.

Адсюль мараль. Не дапусьціць зьвяржэньня адзінага Беларуса з прэзыдэнцкай пасады – сьвятая справа кожнага беларускага патрыёта ●

**Сяргей Навумчык**

## Дзеці – апазыцыянэрам.

Упрацоўных калектывах, дварах і дзіцячых садках – усе ўрубаюцца, што будзе кайф. Нават кожнаму дзіцяці ў нашай краіне зразумелы абраны нашым Прэзыдэнтам і народам курс на стабілізацыю. І толькі кучка адорвышаў-апазыцыянэраў усё пастаянна нешта не даганяе: то інтэграцыя не даспадобы, то цэны ім завялікія, то заробкаў не хапае. «Што зь імі паробіш – невукі», – пацісьне плячыма перадавая даярка ці ганаровы мэханізатар. А вось хлопчык Віця ня склаў рукі перад праблемай палітычнага «лікбезу» дарослых дзядзек і цёцек. Каб запоўніць прабел у адукацыі свайго няўмеру апазыцыйнага продка-булдоса, Віця прынёс зь дзіцячага садку вось гэтую шараду. І бацька дапёр! Сапраўды сказана: вуснамі немаўляці гаворыць ісьціна.

( + ) абавязаныя дабіцца таго, каб з кожным годам жылі . Інфляцыя не павінна даходы насельніцтва. Да сярэдзіны 2001 году сярэдняя заработная плата ў павінна ўзьняцца да ўзроўню, эквівалентнага 100 . З гэтай мэты неабходна дадаткова адшукаць рублёў. Друкаваць гэтыя мы ня будзем. Абапірацца прыйдзецца перш за ўсё на рэзэрвы, жорсткую эканомію сродкаў, сыравіны, матэрыялаў, рэсурсаў ва ўсіх сфэрах народнай . Ёсьць рэзэрвы ў рэспубліканскіх і мясцовых бюджэтах. Усе неабгрунтаваныя трэба рашуча . папярэдзіў аб самым патрабаваньні ад , калі ўзровень інфляцыі ў месяц 2%. Цэны на асобныя тавары падышлі да крытычнай . Затое з паліц магазінаў зьнікаюць сацыяльна значныя па рэгуляваных цэнах. Скарачаецца выпуск масавых, а значыць недарагіх, гатункаў , , . Такія прадукты павінны быць у . Чаму ўдзельная вага масавых гатункаў хлеба ў агульным аб'ёме складае замест ? Чаму Гомельская АТ «Малочныя прадукты» і Магілёўскі малочны камбінат спынілі выпуск прадуктаў, а спэцыялізуюцца толькі на вытворчасьці , а значыць дарагой прадукцыі? паказвае, што амаль чвэрць росту цэнаў, не абгрунтаваныя, і прычына тут у элемэнтарнай , дысцыпліне, адсутнасьці .

# Каўкаская навала?




«Увядзеньне Расейскай Фэдэрацыяй візавага рэжыму з Грузіяй можа прывесьці да пагаршэньня крыміна-геннай сытуацыі ў беларускай сталіцы», – мяркуе намесьнік начальніка Ўправы крымінальнага вышуку сталічнага ГУУС М.Шчурок. Цяпер усе мігрэлы і іншыя ламануць да нас, каб бязьлітасна парушаць усе кодэксы, а заадно й канстытуцыйны парадак РБ. Як гэта будзе выяўляцца на практыцы – нашым спэцслужбам пакуль што невядома. Са свайго ж боку можам вас папярэдзіць: калі раптам у вас падпалілі паштовую скрыню або вы пачуеце ў пад'езьдзе пахавы дыскамфорт шашлыку ці супу харчо, ведайце, гэта – грузіны! Набірайце 02! ●

# Кандыдат-двайнік?

## *Расейскі «чорны пі-ар» можа згуляць злы жарт з А.Р.*

У разгул брудных махінацыяў могуць ператварыцца прэзыдэнцкія выбары наступнага году. Безумоўна, калі б яны праводзіліся ў адкрытых і дэмакратычных умовах, перамога сёньняшняга Прэзыдэнта ў першым жа туры была б бясспрэчнай. Але актыўнае ўжываньне апазыцыяй мэтадаў г.зв. «чорнага пі-ару» пагражае ператварыць дэмакратычны выбарчы працэс у сапраўдны фарс. Гаворка ідзе нават не пра такі прымітыў, як двухтыднёвыя перападлікі галасоў або подкуп выбаршчыкаў.

Сёньня апазыцыянэры зь цікавасьцю вывучаюць апрабаваную расейскую тактыку вылучэньня «кандыдата-двайніка», якая ўяўляе сур'ёзную пагрозу для дэмакратычнага працэсу. Згодна зь ёй, пазбавіць папулярнага кандыдата Сіськіна законных працэнтаў вельмі проста. Дастаткова знайсьці ягонага аднафамільца і таксама вылучыць таго на выбарах, ды яшчэ праставіць, каб брата прывёў. Прыйшоўшы зранку на ўчасткі, народ са зьдзіўленьнем пабачыць у бюлетэні цэлую роту Сіськіных. Большасьць пры гэтым махне рукой, аддасьць голас каму пападзе ды пойдзе дахаты бухаць. Сапраўдны Сіськін праляціць як куля, не атрымаўшы й працэнту галасоў.

**БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ ГАЛАСАВАНЬНЯ**

| | |
|---|---|
| **ЛУКАШЭНКА Аляксандар Рыгоравіч,** Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь. | ☐ |
| **ЛУКАШЭНКА Аляксандар Рыгоравіч,** кандыдат ад аб'яднанай апазыцыі. | ☐ |
| **ЛУКАШЭНКА Аляксандар Рыгоравіч,** незалежны кандыдат. | ☐ |

Жахліва падумаць, да чаго такая практыка можа прывесьці ў беларускім кантэксьце. Апазыцыі дастаткова знайсьці аднаго(!) аднафамільца Аляксандра Лукашэнкі, каб паставіць пад пагрозу дэмакратычнае разьвіццё краіны і стабільнасьць у грамадзтве. Галасуючы цьвёрдай рукой за будучыню краіны, народ фактычна падпішацца пад плянамі апазыцыйных правакатараў. Мы патрабуем ад Цэнтарвыбаркаму не дапусьціць падобнага зьдзеку. Выбаршчыкі, будзьце пільныя! ●

**Глеб Паўлоўскі**



 

# «Умом Расею не паняць, бібліятэкай не ізьмерыць....»

## УстУпы

### Моўны тэрор

Горкія злакі нацыянальна-моўнай палітыкі Лукашэнкі вяжуць ротавую поласьць моладзі краіны. Арданансс Міністэрства Адукацыі аб увядзеньні абавязковых іспытаў па замежнай мове для абітурыентаў ВНУ стаў для юнацтва раптоўнай пісьцюлінай па мырдасах. Дыхлы отракаў аж сьпёрла, бо звальны склон дзеяслова to be нашыя школьныя «паліглёты» ведаюць ня лепей за тэорыю паўправаднікоў Жарэса Алфёрава. Адказнасьць за будучыя «калы» і «неўды» па замежцы юнацтва лягічна перакладае на дарослых.

Ваўкамі глядзяць на сваіх продкаў: якімі ж вы былі блізарукімі эгаістамі, калі ў 1994 годзе аддалі свае галасы за чырвонага фазэндэйра са Шклова. Калі б зараз над К.Маркса, 38 лунаў штандар бел-чырвона-белы, а ў прэзыдэнтах хадзіў Пазьняк або іншы нацыяналістычны мутант, сытуацыя з моўнымі іспытамі была б дыямэтральна іншай. Праз этнічную агіду да ўсяго фіна-вугорскага, Пазьняк даўно б перавёў расейскую мову ў ранг рэдкіх замежных, у кампаніі з санскрытам, ангельскай мовай і індзейскай феняй тхелькалькхоак. У такім разе здаць замежку для беларуса было б як два пальцы аб асфальт. Па-расейску ў нас без «Ешко» здольны чытаць і глядзець «яшчык» нават Прэзыдэнт. А зараз - трэба наняць шапялявага рэпэтытара (так таньней), зубрыць па 25 гадзінаў у суткі, падмазаць непадкупную камісію, адным словам - дупа. Таму, каб пазьбегнуць такога лёсу ўжо для сваіх дзетак, сёньняшнія абітурыенты пачкамі запісваюцца ў адраджэнскія тусоўкі. Крывая прэзыдэнцкага рэйтынгу падкасілася. Праўду, народзе, кажаш: «Ліха адно не бывае - бяду за руку трымае».

«**Ня йдзіце туды, дзе на кожнай вярсьце п'яны мужык**», – папярэджвае беларускіх аматараў экстрэмальнага турызму спэцыялізаванае выданьне *Народная Воля* (7.12.2000). Кожнаму зразумела, што турагенты маюць на ўвазе маршрут вышэйшага ўзроўню рызыкі – Расею. Каб упэўніць вандроўнікаў у непажаданасьці падарожжаў на Ўсход, вядомы асьпірант пяра эканаміст У.Невядомы ўздымае дагэтуль недасьледаваныя пласты геадэзіі, падмацоўваючы свае парады дадзенымі этнаграфіі. Зь іх мы даведваемся аб карэннай нясумяшчальнасьці беларускай культурнай звышдамінанты і расейскіх адаптацыйных рэфлексаў. Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі вучоныя адзначалі: «**На кожныя дзьве вярсты ў Беларусі ёсьць адна бібліятэка, у той час як у Расеі – па аднаму нецвярозаму мужыку**» (Тамсама). Як бачым, нават меры даўжыні ў абодвух народаў ужо ў тыя гады былі радыкальна адрознымі. Напрыклад, да першага падзелу Рэчы Паспалітай кожны беларус дакладна ведаў, што адлегласьць ад Камароўскага балота да Чыжоўскай звалкі складала прыкладна 12 бібліятэк альбо 147 статутаў ВКЛ 1588 г., альбо 1193 ілюстраваныя брашуры, ці, нарэшце, 806545 чытацкіх білетаў. Сытуацыя кардынальна зьмянілася ў 1772 г., калі з азіяцкіх стэпаў навалілася бязьлітасная арда лейб-гусараў імпэратрыцы Екацярыны II. Згвалціўшы з вычварэньнямі душу беларускага народу, расейска-самадзяржаўныя акупанты пачалі вываронваць прыдарожныя ўказальнікі-бібліятэкі, а замест іх праводзіць дарожную разьметку дзябелымі сібірскімі булдосамі. З таго часу тая ж дыстанцыя Камароўка-Чыжоўка вылічалася ў 12 нецьвярозых мужыках або ў 72 штофах мажэвелаўкі, або ўвогуле вымяралася абыяк на п'янае вока асалавелага генэрал-губэрнатара. Новае вымярэньне потым склала аснову для маскоўска-бальшавіцкага кілямэтражу. Хто вярне тыя мільёны беларусаў, што бясьследна заблукалі, ня здолеўшы прыстасавацца да каляніяльнай сыстэмы ўказальнікаў і Зямля ім пухам.




*Гэтак выглядала беларускае вясельле да прыходу расейскіх канкістадораў*

Ня дзіва, што пасьля гэткага генацыду, Беларусь дагэтуль працягвае страчваць свае былыя пазыцыі ў эўрапейскай культурнай канкурэнцыі. Напрыклад, «**беларуская мова ў пачатку гэтага стагодзьдзя на міжнародным конкурсе была прызнаная другой мовай у Эўропе па «мілагучнасьці» пасьля італьянскай**» (Тамсама). З таго часу нашай зборнай па мілагучнасьці ні разу не ўдавалася прайсьці нават сіта адборачных тураў. Апошні посьпех – ганаровая грамата за ўдзел ва Ўсесаюзнай Спартакіядзе па парамілагучных мовах у 1934 г. у Сталінабадзе. (Галоўным трэнэрам беларускіх мілагучнікаў тады быў Кузьма Чорны).

Каму наканавана прарваць ганебную скарлупу акупацыі, якая не пускае нас «быць гаспадарамі, людзьмі звацца»? Толькі моладзі, даводзіць аглядальнік газэты: «**Вы паглядзіце, які нацыянальна-патрыятычны настрой і ўздым пануюць сёньня ў колах сьвядомай зацікаўленай моладзі. Вось з кім бы будаваць будучы росквіт і дабрабыт, вось дзе будучыня і моц!**» (Тамсама). Галоўны сымптом гэтага небывалага ўздыму заключаецца, згодна У.Невядомаму, у перакананьні большасьці маладых, што «**ў Беларусі для іх няма ніякіх пэрспэктываў і на працягу іх жыцьця ўжо ня будзе**». Гэта і ёсьць тыя каштоўнасьці, якія павінен культываваць у сабе кожны сьвядомы беларус, калі ён ня хоча жыць як нашы ўсходнія суседзі і ўвогуле жадае забыць дарогу ў экзатычную краіну, дзе на кожнай вярсьце стаіць п'яны мужык ●

**Язэп Пятроў-Водкін**

# Нацбанк – незалежны!

## *Урад зноў падставіў дзяржаўную прамежнасьць апазыцыйныму Чыкацілу*

Усе мы ведаем, у якіх жорсткіх умовах прыходзіцца працаваць кіраўніцтву нашай Дзяржавы. Нахабны ціск з боку АБСЕ і іншых нацыяналістычных сілаў штораз прымушае беларускі народ ісьці на значныя ўступкі. Але падпісаньне беларуска-расейскай Дамовы «Аб адзінай валюце і адзіным эмісійным цэнтры» трэба лічыць фактычнай капітуляцыяй урада перад апазыцыйнымі драпежнікамі.




Апазыцыя ласа паціраe валасатыя ручонкі. Незалежнасьць Нацбанка ад дыктату ўрада – якую дэмакраты-рыначнікі лічылі правым яйкам, што ўтрымлівае пагібель Лукі-Бессьмяротнага – неўзабаве стане рэальнасьцю. Тое, што ў свой час ня здолелі навязаць Багданкевіч з Чыгіром, Прэзыдэнт нядаўна падпісаў уласнай капілярнай ручкай. Праз пару год эмісія грошай не толькі ня будзе залежнай ад беларускіх чыноўнікаў, але ўвогуле перамясьціцца ў іншую краіну. і тым самым стане бескампрамісна-недатыкальнай да апэтытаў ураду, які да апошняга часу мог «дараваць направа і налева жыльлё і субсыдыраваць «камуналку», транспарт, харчаваньне і многае іншае» (*Белорусская газета*, 4.12.2000). Так што хутка, згодна формуле Данейкі-Фрыдмана (Івд.XІок.<Ірд.>Р), нас чакае татальная дэмакратыя. Адным словам, поўны папандос ●

**Станіслаў Багданкевіч**

# Супраць паленьня!

**«Мля. Гэта ж сапраўды не маё. І нашто мне гэта?! Пайду лепш бухну...» – пастанавілі панкі, пацыфісты і кампутаршчыкі, пабачыўшы па яшчыку ролік супраць паленьня, – «ня будзем чадзіць, пакуль ня стукне нам 18 гадоў». У гэтым і ёсьць мэта сёньняшняй кампаніі, якую прадʼюсавалі «Філіп-Морыс», гарадзенская тытунёвая фабрыка і іншыя нацыянальныя каралі махоркі. Хутчэй за ўсё заказчыкі роліку не абмяжуюцца чыстымі лёгкімі хакераў, хіпі і брудных пункаў. Крыжовы паход супраць паленьня ў асяродку тынэйджэраў будзе працягвацца, так што рыхтуйцеся: на чарзе – адэпты іншых маладзёвых тусовак. А хутка дабяруцца да курыльшчыкаў і ў шэрагах БПСМ.**

**Гэта – нармальны пацан, які не падобны да тых, хто не падобны да іншых.**



**Гэта – той, хто заклікае да вайны і міжнацыянальных канфліктаў.**




**Гэта – артадокс, які ненавідзіць кампутары.** **А ГЭТА ХТО?! А... Прэзыдэнт.**




**Гэта – яго знак.**



 

Зачыні рэАктар

## Жыцьцё пасьля сьмерці.

Чатырнаццаць гадоў таму, у знойным красавіку 1986 году цябе, як і нас, ужо ня стала. Тое, што ты бачыш у люстэрку – толькі апошнія сутаргі і ўздуцьці лімфатычных вузлоў твайго сінюшнага цельца. І ўсё ж, перад тым, як зларадная мэтастаза пахлопае цябе па плячы і скажа: «Пайшлі», ты маеш шанец зрабіць апошні прыгожы жэст у сваім кароткім жыцьці: вярнуцца на некалькі дзён у мінулае і паўдзельнічаць ва ўрачыстай цырымоніі закрыцьця Чарнобыльскай АЭС, што адбылося 15 сьнежня 2000. На ёй пад звон бакалаў прэзыдэнт Украіны, а таксама прэм'еры Беларусі і Расеі рванулі праклятаы тумблер, каб канчаткова адключыць станцыю. Ты можаш апярэдзіць дзяржаўных кіраўнікоў і замест іх стаць Галоўным Ліквідатарам. Але для дасягненьня запаветнага рычагу табе спатрэбіцца вытрымаць шэраг сьмерцяносных выпрабаваньняў. Сьцеражыся канкурэнтаў, адважны ліквідатар, – у радыяцыі паўсюль свае людзі. Хацелася б паабяцаць, што разам з намі ты зьдзейсьніш глючны трып у чароўную краіну, дзе дабро заўсёды перамагае ліха, а Іван-Дурань бярэ сабе ў жонкі маладога задастага трытона. Але скажам па праўдзе, мы і самі ня ведаем, што цябе чакае...

## Умовы ўдзелу ў ліквідацыі.

Зацягні патужэй пампэрс, памаліся і наперад, у непрадказальныя лябірынты фатуму. У залежнасьці ад таго, як ты адкажаш на пытаньні Лёсу, ты трапіш у розныя жыцьцёвыя сытуацыі. Але ня бойся і не шкадуй нічога і нікога: ты ўжо і так труп.
Выпрабаваньні пачынаюцца са СТАРТУ. Адзінае, што ад цябе патрабуецца – шчыра адказваць на пытаньні. Куды прывядзе цябе Лёс – глядзі пасьля кожнага выпрабаваньня ў асобнай ПУЦЯВОДНАЙ РАМЦЫ.

## СТАРТ. «Пасьля банкету».

Э-э-э-й, ты жывы? Прыбіральшчыца ўжо сыходзіць зьбіраецца. Ціха, спакойна, не кусайся. Ну ты і наглюкаўся. Хоць памятаеш, дзе ты? Не, не на «Хвілінцы». Ты ў Кіеве на сьвяточным банкеце ў гонар ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі. Ужо лыка ня вяжаш.

**ГАВАРЫ, ШТО СПАЖЫВАЎ?!**
**А) Паўфаўста пярцоўкі**
**Б) Фужэр тэкілы зь лёдам і зь лімонам**
**В) Антыфрыз бязь лёду, але зь лімонам і праз саломінку**



## «У Чарнобыльскай пушчы».

Прывецік, Ды Капрыё. Давай сябраваць. Я – грыб-дылда. Агрыбінай звацць. А ты? Ладна, няважна. Апладатвары мае споры, брацішка. Не пашкадуеш! Тут на ўсю нашу 30-кілямэтровую зону ніводнага потнага гоміка-мухамора, ня тое што баравічка. Ёсьць тут, праўда, недалёка адзін шчацiністы груздз трохмэтровы – Эдзік. Але імпатэнт... Сьвета Алексіевіч казала.

**ТЫ ЯК ЛЮБІШ, ЗЗАДУ ЦІ СЬПЕРАДУ?**
**А) Ззаду**
**Б) Сьпераду**
**В) Ззаду і сьпераду (можна без гандону)**



## «Ля муроў саркафагу».

Глядзіце, хлопцы, які ўрод. У яго толькі дзьве нагі. Як гэтага выродка зямля носіць? Лавіце яго, пацаны-мутанты! Паймаем яго і засушым.

**ЗА ШТО ЦЯБЕ ЛУПЯЦЬ ГЭТАК БАЛЮЧА ШТАТНЫЯ МУТАНТЫ-АХОЎНІКІ САРКАФАГУ?**
**А) Так трэба**
**Б) Так трэба**
**В) Так трэба**



# ЛІКВІДА

(РАДЫЯАКТЫЎН



## «Ліквідатары пратэстуюць».

Нашто ты мяне кідаеш, гаспадар? Я – латунны юбілейны значак удзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС з нагоды ўрачыстага закрыцьця ЧАЭС. Прадаў бы ты лепей мяне фалерысту ці зрабіў фіксу на зуб. Ляжаў бы ў труне з фіксай – салідна. А ты пантуесься. Кідаеш мяне «ў знак пратэсту» супраць скасаваньня ільгот. Дурань, укалі лепш мной міністра сацыяльнай абароны ці Прэзыдэнта – можа памруць ад заражэньня крыві. І то карысьці было б больш, чым як ты мерзнуць у пікеце зь нейкімі дыстрофікамі. А ільготы...

**НАШТО ЯНЫ ТАБЕ? У ІНСТЫТУТ ФІЗКУЛЬТУРЫ ПАСТУПАЦЬ?**
**А) На лячэньне**
**Б) Прапіць**
**В) Дзеля прынцыпу**





## «Сьпі спакойна».

**Ну, хто тут ў мяне сёньня на ланч? Ўаў!!! Ня часта нам, магільным апарышам, такія дэлікатэсы трапляюцца. Адгуляў ты сваё, ліквідатар. Смачна! Пальчыкі абліжаш. Вось жую цябе, чалавеча акалелае, і думаю: якога д'ябла сунуўся ты ў гэтую гульню. Подзьвігу захацелася? Славы? Напэўна, думаў трапіць у тэлек. Абламіся. Хварэў бы ты зараз спакойна сабе лейкеміяй, і еў бы я цябе праз тры гады. Мням-хрум-хрум...**



## Зьнішчэньне пасеваў наркаты ў «зоне».

Так, душара, ты пасьціраў мне потнікі? Як так яшчэ не высахлі? Усё, на антынаркатычны рэйд па зьнішчэньні пасеваў маку й канопляў не паедзеш. Застанесься бяз кайфу. Хай паламае трохі. Можа зразумееш, што дзедушку паважаць трэба. Табе і так пашанцавала, што па блату ў зону трапіў задарма траву пыхаць. Ну, я пайшоў. Дарэчы, умаж меня напасьледак марафэтам у пах, там у мяне рабочая труба. Асьцярожна, залубу баянам не пашкодзь, касаглазы. Мне да дэмбеля яшчэ паўтара месяцы. Бязь вены ніяк не праслужыць. Ох, добра пайшло. Цяпер можна і тарчкоў-нефармалаў па полі паганяць.

**А ВЫ КУДЫ ЛЮБІЛІ ЎМАЗВАЦЦА ПАДЧАС СЛУЖБЫ Ў АНТЫНАРКАТЫЧНЫХ ЧАСТКАХ МУС?**
**А) У гланды**
**Б) У патыліцу**
**В) Нікуды. Я быў кіслотнікам**



## «На рэабілітацыі ў Нямеччыне».

Гутэн таг, майнэ чарнобылішэ кіндэрн. Пасьля дабрачыннай экскурсіі ў гатычны сабор 15 стагодзьдзя, якая, напэўна, аблегчыла вашыя нечалавечыя пакуты, мы пачынаем нашыя працэдуры. Пройдземце ў баракамэру, якая ўзнаўляе сытуацыю падчас ядзернай зімы. Адчувайце сябе як дома. (Нічога, што я надзену спэцвопратку? Адыйдзі, хлопчык. Не дакранайся да мяне). Давайце цяпер згуляем у цікавую гульню. Паглядзіце на гэтых мілых марскіх сьвінак. Цікава, хто з вас пратрымаецца болей у прытомнасьці – Машанька, Дзімачка альбо пацучок Дольлі. Я прыйду за вамі заўтра, і мы пойдзем у МакДональдс да вясёлага Роні. Бай-Бай.

**КОЛЬКІ ТЫ ПРАТРЫМАЎСЯ У БАРАКАМЭРЫ?**
**А) Каб хутчэй зьесьці бігмак, я адразу прыкінуўся мярцьвяком**
**Б) Я трымаўся да апошняга**
**В) Цёця-экскурсавод казала мне маўчаць, бо гэта ваенная тайна NATO**



 

## «На ўкраінскай мяжы».

Стаяць сука! Імем самасьційнай Украіны я, супрацоўнік пагранічнай службы, кажу табе: стаяць, маскалек! Што вылупіўся – пашпарт давай. Ты што, ня ведаеш, што ў нас карантын?! Мэта наведваньня незалежнай Украіны? Кажаш, эколяг, рэактар зачыняць едзеш? Так я і паверыў, што ўсе эколягі такія бедныя. А вось зараз я праверу, які ты эколяг. Калі адгадаеш загадку – адпушчу можа быць. Калі не, насадзім сраку тваю шчадушную на трызуб для пацехі і дамоў адправім са штампам. Ну што, слухаеш?

**НІ ВОКНАЎ, НІ ДЗЬВЯРЭЙ, ПОЎНА ГОРНІЦА ЛЮДЗЕЙ!**

**А) Ня ведаю**
**Б) Маласольны агурок**
**В) Кіслы агурок**

## «Эпіцэнтар выбуху».

А, засцаў, здыхлік? Позна піць ёд. Ты ў эпіцэнтры атамнага выбуху на палігоне ў Сяміпалацінску. Што, ня можаш выкалупаць казла з носу? Было б чым і адкуль. Нават пакакаць ня можаш, хаця хочаш, напэўна. Ты, экс-малекула, павольна распадаесься на атамы, якія ў сваю чаргу дзеляцца на нэйтроны і пратоны.

**КАГО ВЫБІРАЕШ? Вырашай пахутчэй – не затрымлівай добрых і цёплых Кюрэй.**

**А) Нэйтрона**
**Б) Пратона**

# ...АТАР-2
## (...ЎНАЯ ГУЛЬНЯ)

## «Чарнобыльскі Шлях».

Малады дзяцюк, бярыце бюст Івонкі Сурвілы і станавіцеся ў ланцуг камбатантаў за Незалежнасьць. Раз-два-раз-два, як мяне чуваць?.. Паважанае спадарства, мы сабраліся тут, каб адзначыць 14-ыя ўгодкі вялікай нацыянальнай катастрофы. Курапаты, пфу ты ё.., прабачце, Чарнобыль – гэта сымбаль мэтанакіраванага генацыду беларускага народу. Маскоўска-камуністычны рэжым і іх менскія халуі павінны нарэшце адказаць за БНР.., што вы, Вячорка, мяне ўсё штурхаеце? ..Адказаць за Чарнобыль. На гэтым наш Чарнобыльскі марш пратэсту і адраджэньня лічу закрытым. Сябры Койданаўскай рады, зьбярыце, калі ласка, усе харугвы і аднясіце рэквізыт на сядзібу Фронту. Сябры Кальварыйскай рады арганізавана ідуць слухаць бардаў. Не паддавайцеся на правакацыі. Пакажам усяму сьвету, што мы цывілізаваная эўрапейская нацыя!

**ЗЬ ЯКОЙ ВЫ РАДЫ ФРОНТУ – КОЙДАНАЎСКАЙ ЦІ КАЛЬВАРЫЙСКАЙ?**

**А) Кальварыйскай**
**Б) Койданаўскай**
**В) Траецкай або іншай**

## «Кантрабанда».

Прысядзьце, тужцеся. Што гэта ў вас там за складкай ягадзічнай мышцы? Кажаце, запор? Туалетнай паперы не было? Навошта маніць мытніку. Ух ты, якія сурпрызы – кейсік. Што ў ім – цыгарэты, алькаголь? Адчыніце. Чаго вы так спужаліся? Ах, збройны плутоні! Зараз паглядзім. На смак і колер – савецкай вытворчасьці. Дэклярацыю запаўнялі?

**КУДЫ СЬЛЕДУЕМ?**

**А) Іран**
**Б) Ірак**
**В) Дадому**

## «Перасяленец у сталіцы».

Гэта што яшчэ за зьвярынец дзядулі Дурава на аўтобусным прыпынку, грамадзянін?! Сабака ў вас ці котка, альбо так ...хамяк які, хрэн іх усіх разьбярэ. Карова, каза – для ўсіх у горадзе закон адзін. Колькі працую ўчастковым тут, на Малінаўцы, усё вам даўблю: згодна пастанове Менгарвыканкаму, выгул хатніх жывёлаў і іх правоз грамадскім транспартам без намордніку строга забаронены. А можа ваша карова байцовая альбо шалёная, як у той Англіі, дзяцей пакусае яшчэ. Дзе даведка аб прывіўцы? Вы самі хоць з Маскоўскага раёну? Га?.. Што за раён такі ў Менску, Брагінскі! А, дык вы перасяленец, з чарнобыльскіх. Тады ясна...

**НА ЯКІМ ПАВЕРСЕ З ЛАЙМАЙ ВАШАЙ ЖЫВЯЦЁ?**

**А) Мансарда**
**Б) Першы**
**В) Трэба доўга падымацца на ліфце**

## «Бітва з радыяцыяй».

Ты, хіба, той самы круты ліквідатар, які прыйшоў пабіцца са мной, вялікім і нябачным Радыёнуклідам? Ха-ха-ха! Нямала вас сюды ўжо прыходзіла з лапатамі, шлангамі, дэзактыватарамі, японскімі робатамі і марлевымі павязкамі. Азірніся: гэтае фасфарыцэнтнае сьвятло – косткі тваіх папярэднікаў.

**НУ СКАЖЫ НАПАСЬЛЕДАК, ЛІКВІДАТАР, ЧЫМ ТЫ ЗЬБІРАЕСЬСЯ МЯНЕ ЗЬВЕСЬЦІ СА СЬВЕТУ?**

**А) Кіпячэньнем**
**Б) Злавіць сачком і здаць у паліклініку для досьледаў**
**В) Дыхлафосам у вочы**

## ПуцявОдная РАмка

### Тлумачэньні.

Кожны сымбаль адпавядае асобнаму выпрабаваньню. ЧЫРВОНЫМ значкам у табліцы пазначана тое выпрабаваньне, на пытаньні якога ты адказваеш у гэты момант. СІНІМ пазначаныя выпрабаваньні, да якіх ты пераходзіш у залежнасьці ад свайго адказу.
Ня бзьдзі! Усе там будзем!

## «Ля рубільніку».

**Дітятко, ти куди лезеш до тумблеру поперед українського Президента. Тебе ж немає серед запрошених. Гей, хлопці, ліквідуйте недоразуміння. Ви, товаришу-пане Єрмошін, не турбуйтеся, то так, шпана со Славутіча, приблудилась. Зараз його нагодують і на президенцькому «мерседесі» одвезуть в онкодиспансер. Щас я дам загад. Душегубенко,** *(шэптам)* **візьміть цього ліквідатора та покажить йому тумблер. Тилько тихо. щоб не так як з Гонгадзе...**

# «Момант Ісьціны»

## на экранах – падробка, а ісьціна – у піратаў!

«Гаўно на палачцы» – такую канчатковую рэцэнзію вынесла беларуская культурная эліта новаму лубку У.Пташука «Момант ісьціны». Амаль месяц у рубрыцы «Разьвітаньне з кінашэдэўрам» *Белорусская Деловая Газета* каніла, што экранізацыя аповесьці Багамолава пра трох гэбэшнікаў, якія шукаюць фашыстоўскі радыёперадатчык у беларускай пушчы, ляснулася. Усё таму, што за сьпіңай Багамолава каварны Пташук тайком уначы перапісаў сцэнар, парэзаў ужо зьняты матэрыял і набраў на галоўныя ролі новых бяздарных акторышак. Ня дзіўна, што Прэзыдэнт, нават не дагледзеўшы да фінальных тытраў карціны, націснуў на пульце кнопку «Pause» і даў пінка пад зад міністру культуры Сасноўскаму. Сасноўскага шкада, тым больш, што на самой справе «Момант ісьціны» – фільм абалдзеньнейшы! Мала хто ведае, што па руках сталічнай моладзі ходзіць іншая, сапраўдная багамолаўская вэрсія карціны, без пашукоўскіх купюраў. Прайдзіцеся па крутых тусоўках – паўсюль стыль мілітары (гэтак падлеткі падражаюць кінакумірам з «Моманту ісьціны»), паўсюль цытаты з арыгінальнай вэрсіі, паўсюль байкі «The Moment of the Truth». Адным словам – «Тытанік» ці «Сібірскі цырульнік» сасуць. Каб Вы самі ў гэтым пераканаліся, прапануем некалькі фотакадраў багамолаўскай карціны, якія трапілі пад нажніцы кінахалтуршчыка Пташука ●

Выразаныя зь фільму кадры маглі б узрушыць любога тынэйджэра!


Гестапаўскі ўрод-вычварэнец катуе радыстку Зіну, але яна ім нічога не сказала.

Апошняя надзея Гітлера – фашыстоўская пачвара закінутая ў беларускія лясы, каб сарваць апэрацыю «Баграціён»

Толькі гэтыя кадры маглі зрабіць касу фільму «Момант Ісьціны»: пазбаўленыя жаночай ласкі, супрацоўнікі НКВД на прывале.

## КалЁнка нарОднага паЭта



### Ярыла Пшанічны

***

Я быў на заводзе.
Там лепшыя людзі краіны
Точаць дэталі штодня, штоноч,
Схілёныя над супэрмашынай,
Ператвараюць хвіліны ў год.
У вачах кожнага радасьць,
Зараз любога на пачотны стэнд!
Разгарні сэрца, упэўнен, пабачым:
Там над законам працуе сам Прэзыдэнт.

*2000*

БАЦЬКАВЫ РУКІ

А вы бачылі ягоныя рукі!..

Калі ў яго далонях колас,
Спалоханае дзіцё,
Зямлю ён трымае ў далонях,
Аддавае сваё цяпло.
Яго пальцы трымаюць паперу –
Гэта першы народны закон.
Далонь яго маша ў адказ прывітаньнем
Жыхарам, пасунуўшымся з акон.
А патрэбна –
Будуць трымаць яны зброю.
За кожнага беларуса ён
Не пабаіцца адказаць галавою.
Ён за нас, за ім – мільён!

А вы бачылі ягоныя рукі!..

*2000*

***

Зры ў корань, разам з намі
Пі «Прамень».
Мы сапагамі,
Глоткай, палкай і рукамі
Будзем землю абуджаць,
Рукавоцтва праслаўляць.
Трэзва адкажам:
Нам не патрэбны
Дрэнныя позіркі іх дэмакратаў,
Цягнуць у цемру Краіну Саветаў
Шчупальцы спрута лжэдэпутатаў.
Вам, адраджэнцы, сорам згубіўшым,
Хочацца зразку Капры-Таіці.
Тайнага зговару як павучары
Вы заплялі небясьпечныя ніці,
Ціхінька седзячы ў сваім асяродзьдзі
Вы гаварыце, што вы за народ.
Навошта гаўна інфармацыяй корміце
Нявінныя вушы дзяцей і сірот!
І тады, калі вы іх адурманіце,
То заганяеце на сходку-шабаш.
Закон народны яны праступаюць,
Іх душы за долар ідуць баш на баш.
Упэўнены, сытна харчуясь, вам лёгка
Жыць паразітам у сэрдцы страны.
У западных банках на гэтую справу
Грабёце доўгай лапатай «грыны».
Я кажу так, Прэзыдэнт гэта бачыць,
Ведае па імёнах кожнага з вас!
Ня доўга на сьвеце вам верхаводзіць
Перамогі ідзе ўжо час!

*2000*



## *Учымся радному языку*

# Хадорава насьлецтва



Эта праізашло яшчо пры Машэраве, лет за дзесяць да радзіацыі, кагда ў нас і долараў яшчо ніхто ня відзеў. У адну далёкую палескую дзярэўню прышло пісьмо із-за граніцы на імя Хадорыка. А ў той дзярэўне ўсе Хадорыкі, таму і дзярэўня называецца Хадорыкі. Чытаць па-іхнаму, панятна, ніхто ня ўмеў. Ну, абсудзілі ўсёй дзярэўняй і рашылі пісьмо аддаць прадсядацелю непасрэцтвенна на храненіе і ажыдаць, можа што само праясьніцца. Такія ўжэ ў нас людзі памяркоўныя.

І точна, чэраз месяц прыходзіць яшчо адно пісьмо із Масквы, із Мінісьцерства інастранных дзел: «Будуць Хадорыкі сваё насьлецтва інастраннае забіраць, ілі нет? Есьлі ня будуць, дык пусьць падцьвярдзяць адказ пісьменна». Ну, тут ужэ прадсядацель зьезьдзіў у саседнюю дзярэўню ў школу і прывёз аттуда вучыцелку. Вучыцелка эта пісьмо зарубежнае і перавяла. Пісьмо аказалась з самой Канады: «Місьцер Хадорык, саабшчаем Вам грусную новасьць. Нядаўна ў нас у Канадзе памёр Ваш радны брат Джозэф Хадорык. Усю сваю жысьць Джозэф дабрасовесна рабіў на шахце шахцёрам, жыў чэсна, не грашыў і паэтаму скапіў 500 тысяч долараў. У Канадзе пакойны не імеў сям'і, і таму завяшчаў перад сьмерцю ўсё сваё састаяніе Вам. Палучыць насьлецтва можна ў Канацкім пасольстве ў Маскве».

Тут усе ўспомнілі, што ў дзеда Хадора быў брат Юзік, каторы перад вайной прапаў. У трыццаць дзявятым гаду, кагда ўсе «саветаў» ждалі, тыя зь дзярэўні, хто пабагачэ, з палякамі адступілі. А Юзік этат дурачок быў, у школу два гады хадзіў і дажэ буквам польскім не навучыўся. Ну, і апрадзялілі яво кароў пасьвіць. І хто ўжэ яво зманіў туда, чорт яво знаець, но людзі відзелі, как он на запад умесьце з кулакамі шоў. От, значыць, у Канаду судзьба Юзіка і закінула, а там яво ўжэ капіталісты на Джозэфа перадзелалі і ў шахтах замучылі. А ня быў бы дурачком, дык рабіў бы спакойна ў калхозе пастухом.

Пагаравалі, канешна, усёй дзярэўняй над Юзікам, і адправілі дзеда Хадора ўмесьце з большым сынам у Маскву. Вярнулісь мужыкі как тыя паны: дзед на «Волге» едзіць, а сын узадзе на матацыкле з каляскай. Ну, і прывязьлі там рознава: целявізар цьвятной, халадзільнік, жэншчынам платочкі, мужыкам каньяку армянскава, дзіцям ледзянцоў. Там, у Маскве Хадору знаюшчые людзі зь Мінісьцерства інастранных дзел пасаветавалі палавіну насьлецтва ў Фонд міру адпісаць, а другую палавіну чэкамі выдалі, а то долары тагда не хадзілі. Хадор эці чэкі ў мяшок з-пад сахару паклаў: какраз кілаграма тры чэкаў і палучылася. Но ня доўга Хадорык багацеем пабыў. Начaлі да яво саседзі хадзіць па чэкі: «Зачэм цібе, дзед, эці чэкі? У нас у сяльпе нічаво на ніх ня купіш, а людзі гаварылі, што ў Мінску ў «Бярозке» разныя дэфіцыты ёсь. Я вот січас у Мінск да дачкі сабраўся. Можа аддолжыш тысячу-тую? А я цібе з палучкі рублямі аддам». Ну, Хадор, канешна, каму аддалжываў, а харошым людзям і так даваў. Так ано і шло, пака аднажды возьле дзедавай хаты не астанавілась чорная «Волга» зь мінскімі намярамі. Два мужчыны пры гальштуках зашлі ў хату: «Хто зьдзесь Хадор Хадорыкі Прайдзёмце, гражданін», і ўвязьлі дзеда ў неізьвеснам напраўленіі. Вярнуўся дзед чэраз нядзелю, нябрыты і злы. Нічаво нікаму не гавара разьвёў на двары касьцёр, выташчыў з хаты мяшок з чэкамі і бросіў іх прама ў агонь. «Што б міня, краснава партызана із-за эціх бумажак інастранных ў цюрме дзяржалі ўмесьце з разнымі фулюганамі?! Ды пусьць гараць аны ўсе! Вот вам «валютныя апярацыі», вот вам «сьпекуляцыя інастраннымі дзенежнымі знакамі!» Хадорыха зь вядром прыбяжала, пыталась чэкі затушыць, ды позна: што згарэла, што сьвіньні па двары расьцянулі і зьелі. Хаця патом яшчо долга Хадорыха, пратаючысь ад дзеда, сушыла на вяроўке за кароўнікам полуабгарэлыя памятыя чэкі.

Вот так, браток, і бываець усягда: амерыканскія дзеньгі нікаво да дабра не даводзяць. От і мы з табой за этую дзясятку баксаў на пятнаццаць сутак папалі. Тожэ мне, валютчыкаў нашлі. Ну, нічаво, заўтра выйдзем. А я ж яшчо пяць долараў спратаў. Дзе? А ну, дай на вуха скажу, толькa ня сьмейся, га? ●

! – *Гл. заданьні да аўдыяваньня тэксту.*

**Заданьні да аўдыяваньня тэксту.**
Праслухайце тэкст. Скончыце сказы, абраўшы правільны варыянт:
1. Ну, абсудзілі ўсёй дзярэўняй і рашылі пісьмо аддаць
а) куда сьледавает, штоб прынялі саатвецвуюшчыя меры.
б) прадсядацелю непасрэцтвенна на храненіе і ажыдаць, можа што само праясьніцца.
в) Хадору назад, пусьць голаву людзям ня дурыць.
2. Усю сваю жысьць Джозэф
а) дабрасовесна рабіў на шахце шахцёрам, жыў чэсна, не грашыў і паэтаму скапіў 500 тысяч долараў.
б) грабіў капіталісьцічаскія банкі, а дзеньгі перачысьляў у Фонд міру.
в) быў членам Канацкай камунісьцічаскай парціі.
3. Там, у Маскве Хадору знаюшчые людзі зь Мінісьцерства інастранных дзел пасаветавалі
а) купіць ведамсцьвенную дачу на Фаросе.
б) выехаць у Канаду на пастаяннае места жыцельства.
в) палавіну насьлецтва ў Фонд міру адпісаць.
Зьверце вашы адказы з друкаваным тэкстам і падлічыце памылкі: 4 памылак і болей – незад., 3 памылкі – зад., 2 памылкі – добра, 1 і меней – выдатна.




*Пад уплывам штогадовага музычнага фэстывалю ў Сьветліку ўсё больш моладзі даведваецца, што такое СНІД*

# СЬПІДАБОЙКА

Пра «Сьпідабойку» я дазнаўся 2 сьнежня з *Ранкі*[1], што Сьпідабойка была 1-га. Напружыў памяць: няўжо я мог прапусьціць масакру, якую сьветлагорскі андэграўнд чакае цэлы год?! Каб даведацца, што было ўчора, пайшоў на «Вячоркі»[2]. Там я падыйшоў да панка Ёжыка[3], які лячыў сьвежы бадун.

– Ну, ты малаток, – прасіпеў ён, – я думаў ты каліч, а ты круты кекс! Табе што, мозгі адшыбла? Я сустрэў цябе каля ўваходу ў ГЦК, дзе ўчора Сьпідабойка была. Прайшлі дзьве сотні нефармалаў, хто пасьпеў першым прапіхнуцца. Хто не прайшоў, пілі «Залаты венік»[4] і чакалі свайго зоркавага часу. Час ад часу мянты выкідалі з залі ўзбуджаных рокераў і пускалі новую порцыю. Калі нарэшце ўціснуліся й мы, у залі якраз калбасіла ЭХО. Мяне падарвала патанчыць, а ты сказаў: «Пайду ў тэксты ўрублюся», і пайшоў. Апошні раз я цябе бачыў цябе побач з Піпеткай.

Ніякага Піпеткі я ня ведаў, і спытаў, дзе яго шукаць. «Гдзе-гдзе, на Маяке!». На гэтым я пацісную мужную руку Ёжыка і пашпарляў на Маяк[5]. Маяк сустрэў мяне бабулькамі, якія адкрыта гандлявалі народнымі наркотыкамі – семкамі і «Астрай». «А ну, бабкі, каліцеся – хто з вас Піпетка?». «Там ішчы сваіх», – сказала наркадылерка і кіўнула ў бок пэрылаў праз дарогу. На пэрылах сядзела купка бледных людзей. Піпеткай аказаўся даўгі хлопец, які, пабачыўшы мяне, адразу ўзрадаваўся:

– Ну-у-у-у, брат, пры-і-івет. Твая чарга прастаўляцца!

– За што прастаўляцца?

– Як за што? Забыўся, як учора на Сьпідабойцы ты да мяне падсеў? Мы паразмаўлялі пра Бадлера[6], прэзыдэнта і пра тое, як я сьпі...янэрыў на працы лямпачку. А потым, памятаеш, на сцэну выйшлі дэзэры з ФУГА і пачалі пярдзець ротам. Мы прагрузіліся й вырашылі патанчыць. Тут мянты нам кайф зламалі, кажуць: «Вы што, танчыць на канцэрт прыйшлі або са сьпідам бароцца! А ну, на х...утка на месцы або зараз сьвежым паветрам падыхаеце». А тут акурат НАГВАЛЬ вылез. Мы выйшлі ў ачко, ты кажаш: «Умаж мяне хутчэй, каб ня чуць гэтай калічнай музыкі». Калі мяне троху адпусьціла акурат пачаўся конкурс «Як нестандартна ўжываць прэзэрватывы». Ну ты крэндзель, заляпіў, што ў іх можна наліваць бэнзын і факаць, а табе за гэтую пургу гару гандонаў далі, ты іх яшчэ баянам папратыкаў. Ня памятаеш? Калі граў СТРЭЙЧ, цябе бачылі ў фантанчыку зь Любкай-Ля-бомбай[7].

Ля-бомбу я знайшоў на Бісе[8]. Ля-бомба ўшчыпнула мяне за піпун.

– Давай, – кажа, – расьпішымся. Ты ж учора мне абяцаў, пакуль ня кінуў мяне ў істоме, а сам пабег перціся пад ЛЮБОВЬ И СПОРТ. Я цябе шукала-шукала, ды ўсё дарма. Дзеўкі казалі, што цябе мянты зграбалі, надавалі па філейных частках і забралі ў выцьвярэзьнік. Я б на тваім месцы туды зазірнула. Звычайна, мянты асабістыя рэчы вытрасаюць.

Калі я зазірнуў у мэдкабінэт начлежкі, дзядок-дактарышка хутка паставіў чарговаму кліенту дыягназ «п'яны – віноўны» і турнуў яго, каб паразмаўляць са мною.

– Крапіцеся, малады чалавек. Сумная вестка.

– Няўжо я нагрубіў мянтам і мяне адправяць у ЛТП рыць задарма траншэі?

– Дагуляліся. Вы – хворы на СНІД і ганарэю. Мае спачуваньні. Менш трэба па вечарах швэндаца па роках усякіх. Давайце я вам налію для падняцьця духу, – і вынуў канфіскаваную бутэльку самагону.

Добрая атрымалася Сьпідабойка. Цяпер на сваёй шкуры ведаю, як можна падчапіць гэтую чуму ●

**Баляслаў Пярдштук-Малодшы**
Менск–Сьветлагорск

## СлОўнік

[1]*РАНАК+* – сьветлагорскі гарадзкі орган, дзе друкуюцца крыжаванкі ад Антона (у прастанародзьдзі Гандона).

[2]**«ВЯЧОРКІ»** – мясцовы піўны бар, аналяг менскай тусоўкі каля Цэнтралу.

[3]**ЁЖЫК** – панк старой сьветлагорскай школы, рэдактар мясцовай зіны *Падёж skota*.

[4]**«ЗАЛАТЫ ВЕНІК»** – у арыгінале «Залаты вянок» – культавае віно сьветлагорскай багемы з гатунку шмурдзякоў.

[5]**МАЯК** – прадуктовы магазін, дзе можна набыць усё акрамя прадуктаў – траву, геру і нават для аматараў доўгіх і глючных трыпаў ЛСД.

[6]**БАДЛЕР** – вядомы на Сьветлагоршчыне наркаман-паэт зь вёскі Шацілкі. Пісаў тэксты для гурта КВЕТКІ ЗЛА. Акачурыўся пасьля таго, як умазаўся міксам ацэтону, воцату, соды і іншых невядомых субстанцыяў.

[7]**ЛЯ-БОМБА** – проста кабыла.

[8]**БІС** – рэстаран на ўзьбярэжжы Беразіны. Месца тусовак пахатлівых бабішчаў.

# Урокі Наважылавай:

## Аэробіка ці нешта большае?



У гадавіну прыняцьця дэклярацыі правоў чалавека, я патрапіў на суткі (выяўляў свой пратэст канцэптуальным абсцыканьнем апалітычнага слупу) і атрымаў свае 15.

У маёй «хаце» акрамя мяне было яшчэ тры чалавекі: Мікола, студэнт, якога забралі разам са мной, былы зэк, а сёньня вадаправодчык 5 ЖЭК-а Сьцёпа, бомж і алькаголік, а ў мінулым асэнізатар берастaвіцкага калгасу «Запаветы Ільіча» Веньямін Аляксандравіч. Неяк паволі (сытуацыя распалагае) нашая гаворка зайшла пра сэкс-сымбалі Беларусі. Веньямін Аляксандравіч згадаў, што тэлевізара ўжо тры гады ня бачыў, а прыгажэйшай за Любу з пункту прыёму, у дзень, калі ёсьць тара, можа быць толькі дзяўчынка з этыкеткі на гарэлцы «Полька». Сьцёпа раптам ажывіўся і пралепятаў: «Дурныя вы і жыцьця не разумееце». І пайшло і паехала, за кароткі час мы даведаліся, што ня толькі Сьцёпа, але ж і шматлікія жыхары «месцаў ня гэтак далёкіх» у адзіны голас прызнаюць, што самая сэксуальная ў сьвеце – гэта Натальля Наважылава. Так, так, менавіта тая самая гімнастка што ранкам у простым эфіры на вачах ва ўсіх грамадзянаў робіць... АЭРОБІКУ. Уявіце сабе, як ранкам са ўсіх баракаў згаладалы народ зьбіраецца ў клубе, каб убачыць Наташу, а мянты маўчаць – разумеюць, што Наважылава – гэта сьвятое. Народ прысаджваецца, і сэанс пачынаецца. «Растаўце ногі шырэй і павольна рухайце тазам. Так, так, гэта вельмі прыемна. Ніжэй, ніжэй, не зьбівайцеся з рытму», – гаворыць Наташанька, а корышы ажно загінаюцца, кожны зь іх у кішэні свой болт юлозіць. А апэратар нібыта разумее, што ў нас адбываецца, і такія ракурсы выбірае, што ўвесь час на экране пульсуе Наташкін зад. А як яна дыхае, як дыхае, ад яе дыханьня паўзоны ў пот кідае. Сьцёпа абяцаў яшчэ распавесьці пра 30 (трыццаць) позаў, у якіх мужчына можа займацца ананізмам, але ж прыйшлі мянты і выгналі мяне на свабоду. Цяпер, калі побач няма маёй сяброўкі, я з задавальненьнем займаюся аэробікай ●

**Аляксандар Бубка**



# Праект «Z»

## Дарослыя фанаты «Зорро» выкрытыя.

Самым скандальным праектам у стойле беларускага шоў-бізнэсу мусіць стаць менавіта гэты! – наперабой абвяшчаюць менскія газэты. Але гурт з правакацыйнай назвай Z пакуль ня вызначыўся ні паказальным гомасэксуалізмам, ні наркатычнымі шабашамі, ні нават артыстычным мінэтам сам-насам (а-ля Мэрылін Мэнсан).

Каманда пайшла самым папсовым і бясшкодным для здароўя шляхам. Пад скрыгат «хардкору» высокім пранізьлівым голасам бэнзапілы вакаліст скандаліць трывіяльныя мітынговыя лёзунгі: «Радзіма! Свабода! Дурная работа!». Такая лажа цягне на верныя 15 сутак, таму музыкі хаваюцца пад маскамі. Замест іх у апарнякі пачкамі цягаюць фэнаў-малалетак.

Хто ж хаваецца пад белай маскай вакаліста? Гэтае пытаньне даўно хвалюе музычных крытыкаў і праваахоўныя органы. Праявіўшы цуд апэратыўнасьці й дальнабачнасьці, наш карэспандэнт здолеў «вычысьліць» скандаліста. Сапраўды, толькі глухі не пазнае ў непаўторным фальцэце голас аднаго з патрыярхаў айчыннай эстрады. На нашыя пытаньні адказвае **Анатоль Ярмоленка**.

**– Скажыце калі ласка, чаму вы прынялі ўдзел у гэтым праекце?**

– Мне проста надакучыла займацца той папсьнёй, якую я дагэтуль рабіў. Цяпер усё крута. Цяпер у мяне шобла прыхільнікаў, мяне слухаюць малалетнія дзяўчынкі.

**– Але пасьля вашых песень падлеткі не цікавяцца жыцьцём, ідуць на апазыцыйныя мітынгі, размалёўваюць сьцены лёзунгамі. А потым яны бяруць у бацькі службовы «Макараў» і йдуць у школу...**

– Мяне гэта не хвалюе. Гэта лепш, чым уступаць у БПСМ.

**– Вашыя творчыя пляны?**

– Пракаціцца з нашым альбомам «З Новым Годам» па дзіцячых садках. Па-першае, падлеткаў трэба разбэшчваць зь дзяцінства. А па-другое, накосім бабак. Шмат бабак!.. ●

**Лявон Вольскі**



*Анатоль Ярмоленка цяпер не здымае маскі нават у інтэрвію Радыё «Рацыя».*

# Тайныя спружыны палітыкі

Зін, хочаш бутэрбродаў з катлетай? Мне мама сёньня склала.
Нічым не прыкметны дзень у адным з моргаў сталіцы. Калектыў упэўнена ішоў да перавыкананьня гадавога пляну.

І раптам з чарговага трупу замест звыклых кішак палезьлі пстрыкнулі ў розныя бакі заржавелыя спружыны




Та-ак. Школа... Армія... Турма... Ба! Нябожчык быў столярам-перакладчыкам у прадстаўніцтве АБСЭ!
«Паскораная спружыністая дапамога» прыбыла на месца здарэньня й прыступіла да вывучэньня матэрыялаў.

У нас такая цякучка кадраў, што ўсіх і не прыпомніш
Пахан місіі АБСЭ абвяргаў усялякую прынележнасьць да інцыдэнту.

Стомлены пошукамі, Азаронак спружыніў дахаты, калі ў пад'ездзе яго сустрэла чароўная незнаёмка зь недвухсэнсоўнымі намерамі.




Пасьля апошняй сэрыі я нават паставіла сабе сьпіраль
Р-р-р-р!..
Гістэрычка ахмурыла Азаронка й зацягнула героя ў ложак.

Здохні, славянішка!
Раптам у момант аргазму яму стала душна.

Змагаючыся за жыцьцё, Азаронак інстынктыўна вафлянуў у твар бессаромнай путаны.




Навачах у Азаронка пачалася біякарозія маладога жаночага арганізму. Праз колькі хвілінаў замест голай бабы ў ложку ляжала іржавая спружына.

Ўаў, ды тут напісана «Made in OSCE»




Вік скінуў зь сябе вопратку разам са скурай, пад якой аказаліся... новенькія храміраваныя спружыны палітыкі.

Потым перад вачыма Азаронка пачалася оргія, кульмінацыяй якой была ініцыяцыя ў спружыны новага кандыдата — Мікалая Домаша.

Ой, я адчуваю, як зь мяне выходзіць славянская душа.
Цярпі, Домаш, кандыдатам станеш. Адзіным!




Засьцігнутыя на месцы злачынства, спружыны паскакалі ў пагоню.

Вось вам, вашынгтонскія халуі!
Ад страху герой абмачыўся, але гэта было выратаваньне.

Мы яшчэ сустрэнемся, чалавеча!
А я меткі пацан
Спружыны ў паніцы бяжалі. Але гэта быў толькі пачатак.

